

## НА ПЕРШАЕ СПАТКАНЬНЕ

Анатоль Брусэвіч замалады, каб называць яго проста — паэтам, ён жа толькі скончыў дзевятую клясу школы. І пашэнціла ж хлопцу выдаць зборнік вершаў «без чаргі» у Гародні ў мясцовай друкарні!

Анатоль вучыўся ў чацьвёртай клясе, калі пры Доме-Музэі Максіма Багдановіча сабраўся дзіцячы гурток «Вянок». Іх усіх прывяла ў музэй дзяўчынка, якая таксама пісала вершы, — Валя Крачкоўская, яны ўцякалі ў музэй ад занудлівае казёншчыны школы ды ад сямейных сварак. Збоку гледзячы мы толькі і займаліся, што пілі гарбату ды гулялі ў беларускія гульні. А паміж гульнямі падрыхтавалі два спэктаклі, пелі песьні — вясьнянкі, калядныя; хадзілі на «талокі» ці «суботнікі», на экскурсіі па старажытнай Гародні і яе ваколіцах, дэклямавалі вершы беларускіх паэтаў і складалі свае. Усе складалі вершы. Вясною зьезьдзілі ў старажытную сталіцу Вільню, а заадно і да Зоські Верас, зь якою ліставаліся, — у яе лясную казку.

За два гады дзеці вырасьлі, не захацелі ўсур'ёз займацца літаратурай, сталі саромецца размаўляць на мове, на якой іх бацькі і дома не размаўлялі. Валя пераехала з бацькамі ў Менск, музэй наведвалі толькі Анатоль Брусэвіч ды Паліна Варнакова, якая неўзабаве захапілася маляваньнем. «Вянок» засох...

Анатоля завабліваюць студэнты мясцовага унівэрсітэту, якія дрэнна на яго ўплываюць, самі займаюцца штукарствам, пазёрствам, самалюбаваньнем, але затое бяруць хлопца то на тэлебачаньне, то ў «Чырвоную зьмену», што стварае ўражаньне лёгкага посьпеху Ня кожнаму па сіле ў маладым узросьце над аркушам чыстае паперы пісаць вершы ды хаваць іх у шуфляду Ды вершы, якія ўклаліся ў гэты зборнічак, створаны менавіта ў цішыні начнога гораду ці ў вёсцы, куды Анатоль езьдзіць да бабулі, каб вучыцца размаўляць і думаць на мове Цёткі, крэўным нашчадкам якой зьяўляецца, — а гэта абавязвае яго працаваць над словам натхнёна і не ленавацца... Запрашаем чытача на першае спатканьне зь вершамі Анатоля Брусэвіча!

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.**

## САБАКА, ГУСЬ…

Сабака, гусь, карова, кот,
сьвіньня, авечка, бегемот,
пацук, чарвяк, ліса, арол,
карась, індыйскі слон, асёл.
Калматы коней запыніў…
Ато ж сабраўся калектыў.

## ДУЭЛЬ

Дуэль паміж жыцьцём і самагубствам.
Хто выйграе — ня ведаю пакуль.
Два сэкунданты — розум мой і глупства.
Хто выйграе — ня ведаю пакуль.

## ПА ДАРОЗЕ НА НЕБА

Па дарозе на неба я страціў сяброў,
і яны паміраць засталіся на сьнезе.
Па дарозе на неба я ўбачыў аслоў,
што на неба з асьлінаю тупасьцю лезьлі.

Па дарозе на неба я ўбачыў палац,
ля якога стаялі маленькія людзі.
Я туды не пайшоў, а застаўся чакаць,
каб дазнацца нарэшце, што з гэтага будзе.

* * *

Я сам сабе ня вораг і ня сябра.
Шкада мне адзінокую душу.
Я зьневажаю сам сябе нахабна,
і доўга прабачэньня не прашу.

Я сам з сабой, і разам нам — цудоўна...
Я — гэта я, а можа я — ня я?
Ня ведаю, хто з нас і ў нас галоўны...
Не раздваілася душа мая.

## ВЕЧАР

Зноўку шарая гадзіна,
сад у цемру сплыў.
Дроў у печку я падкінуў,
лямпу запаліў.

Павучок між павуціньня
сьпіць пад сьпеў агню.
На сьцяне стары гадзіньнік
будзіць цішыню.

Пад дзьвярамі за парогам
нейкі дзіўны сум.
А за вокнамі — нічога,
толькі ветру шум.

## ЛІСТ

У думках я цалую
вясёлы погляд твой.
Я па табе сумую
і целам і душой.

Табе я дазваляю
спаліць нясьціплы верш.
Калі агонь палае,
то, пэўна, і жыве.

Я шчэ не на каленях,
але ж у сэрцы боль.
Пакуль, мая Алека!

Брусэвіч Анатоль

2.02.92.

## МАЁЙ МАМЕ

Стоміцца дзень і прысядзе на плот.
Сонца ў блакіце астыне.
Вось і прабег думкамі год.
Колькі яшчэ іх загіне?

Але няхай — часу на зло
вусны цалуюць усьмешкі...
Усё, што былое, тое прайшло,
зьнікла зь зямлі нашай грэшнай.

29.03.92.

* * *

Я з гэтага пярэстага жыцьця
сабе бяру, як правіла, нямнога.
Мне не патрэбны цар або судзьдзя,
канешне, акрамя самога Бога.

Адзіны Ён пакажа пэўны шлях,
бо на зямлі ў мяне пакуль нікога.
Ніхто ня ўбачыць смутак у вачах.
І я адзін пайду сваёй дарогай.

* * *

Мне сумна, што хутка паеду ізноў
Адсюль, дзе душу пакідаю заўжды.
Самотна глядзіць спустошаны дом.
Рукой памахае мне з коміну дым.

Галінкаю шэрай зачэпіцца бэз,
Каб я паглядзеў на запушчаны сад.
Усьмешкаю шчырай за вёскаю лес
Пакліча мяне, каб вярнуўся назад.

Я буду, як сьвята, чакаць гэты дзень.
Калі на нядоўга прыеду сюды.
А потым накрые зайздросны цень
Блакітнаю коўдрай адбіткі — сьляды.

* * *

На непажоўклы шчэ абрус
зялёнай кошанай травы
цераз туману бляск сівы
спадае сонца жоўты вус.

Халодны сад, нібыта шкло,
блішчыць ад кропелек расы.
Цярэбіць вецер валасы
і хмаркі ловіць у сіло.

## ЖНІВЕНЬ

І дзень таксама стаў кароткім,
нібы абрэзаная нітка.
На сьліўцы хтосьці вельмі спрытна
малюе золатам ясноткі.

Гарачыня ў сваіх абдымках
цалуе жыта з васількамі.
Зьнікае лета за палямі,
а бэз махае ўсьлед галінкай.

## БАГАТКІ

Пасівелі жоўтыя багаткі
і згубіў іх вецер у тумане.
Жоўтыя багаткі, як нашчадкі,
зьніклі ў чорным позірку зьмярканьня.

Ды ня лёс ім быў цьвісьці на полі:
Іх глынула вогнішча пажару.
Злы агонь забраў жыцьцё і волю.
І сьмяяліся на небе хмары.

## ТРЫЯЛЕТ

Не кране мяне позірк людзей,
я гляджу толькі ў вочы нябёс,
толькі ў вочы халодных завей…
Не кране мяне позірк людзей.

Ён у сэрцы яшчэ не ўваскрос
і ня можа заглядваць далей.
Не кране мяне позірк людзей,
я гляджу толькі ў вочы нябёс…

* * *

На абломках старога сусьвету
я знайшоў пакалечаны лёс.
Белы пыл, перамешаны зь ветрам,
яго кволае цела прынёс.

А на небе нічога ня бачна,
толькі бруд ад няроўных сьлядоў.
Сонца промнямі ціха плача
і аблокі крычаць бяз слоў.

Занядбалы дзядуля вечар
пахавае пад дрэвам цень.
Нібы шкло, застывае вечнасьць,
каб вітаць незалежны дзень.

* * *

Год — дзіравая кішэня,
ў ім капейкі — дні.
І праз дзірку, нібы зерне,
сыплюцца яны.

А капейкі — не даляры,
не шкада мне іх.
Я пасею зерне мараў
для сябе і ўсіх.

Прыйдзе час — і мне кішэню
прыйдзецца зашыць.
А пакуль у ёй натхненьне
і жыцьцё зьвініць.

* * *

*Андрэю ЭЙСМАНТУ*
*Антону ЯНУЦІКУ*

Навошта нам прарокі?
Яны ня зьменяць лёс.
Ну, што, калі аблокі
адкрыюць твар нябёс?

Ня будзем мы ўсёроўна
раней, як трэба, там:
І гэта ўсё — цудоўна,
як чыстая вада.

* * *

А куды мне яшчэ падзецца?
Сам сябе ў сябе схаваю.
Сам сябе ад сябе схаваю...
Мне ад гэтага нават лягчэй.

Толькі рэха адно адгукнецца
зь невялікага шэрага краю,
там, дзе шэра агонь палае
і халодныя рукі пячэ.

* * *

Я шукаў чалавека ў сьвеце пустым,
але ў цемры жыцьця не знаходзіў нічога.
Я па сьцежцы пайшоў, абмінуўшы гады,
а яна прывяла да людзкога астрога.

Там я страціў сябе сярод жорсткіх вачэй,
і сканала душа, як жабрачка, пад плотам.
Там закончыўся шлях ад мяне да людзей
і паціху накрыўся чырвонай лістотай.

* * *

Тую птушку зьлавіла восень
і схавала за сьцены кратаў.
Мы нічога ўзамен ня просім,
мы прывыклі да зьмены ўладаў.

Усёроўна стаім на каленях,
баючыся, што прыйдзе час,
калі зноўку дзядуля Ленін
адусюль прывітае нас.

Ды мяне сярод вас ня будзе.
Я пайду сваю птушку шукаць.
А сьляпыя маленькія людзі
на каленях няхай і стаяць.

## НОВЫ ДЗЕНЬ

Мяне вітае новы дзень
Сваім сьвятлом цераз вакно.
З абломкаў вецер зьняў прамень
І тчэ нябёсаў палатно.

Блукае сонца сярод хмар,
А потым зваліцца, бы куль.
Запаліць поўня свой алтар,
Пакліча зорак, а пакуль

Бялее дзень цераз вакно,
І я гляджу на новы сьвет,
Як на цікавае кіно,
Згубіўшы недзе свой білет.

## СЬВЕЧКА

Я сьвечку запаліў прад алтаром начным.
Лагоднае сьвятло адбілася ў вакне.
Апошні колер дня згарэў у бляску тым.
І біўся чорны цень, бы дэман, на сьцяне.

А за акном туга пляце калючы дрот.
І толькі мой агонь перацінае жах.
Але загасьне ён бязь нейкіх там турбот.
Застыгне жоўты воск сьлязінкаю ў вачах.

## ЗІМА

Прыгожа стала.
Выпаў ціхі сьнег.
Бярозы шэраньню пакрыты.
Навокал гурбы...

Рэчку і ракіты і
ўсю зямлю ў прыгожы белы мех зіма,
нібыта ў казку добрую,
паклала.

Зьвяры паснулі. Птушкі не пяюць.
Ня чуцен болей гоман журавуліны.
Стаіць адна чырвоная рабіна.
А ў полі злосныя вятры гудуць.

## У САВЕЦКІМ АЎТОБУСЕ

У аўтобусе людзей цьма.
Нідзе мейсца вольнага няма.
Усюды морды п'яныя стаяць.
Хочацца ад іх ванітаваць.

Хтосьці локцем дасьць або нагой
ды яшчэ прамовіць: «Сьмірна стой!»
Былі б грошы — езьдзіў на таксі.
Калі б што, сказаў: «пардон», «Мэрсі».

А цяпер я еджджу, як вар'ят,
а наўкол — адзін пралетаркі.

## ЗНОЎ ДЗЕНЬ

Страшна заенчыў будзільнік
Зноўку я ў шэрым сьвеце.
Сны з галавы і фільмы
Выкіну, нібы сьмецьце.

Гляну ў вакно пустое —
Усюды густыя хмары.
Кроплі зямлю загояць,
Быццам душу маю — мары.

У бескалёрным паветры
Лёс мой калышацца шэры,
Нібыта ветразь бязь ветру,
Страціўшы розум і веру.

## ЗІМОВЫ ЛЕС

Зімовы лес напоўнены маўчаньнем,
бы срэбны кубак белага віна.
І ціха вечар п'е яго да дна,
як горкае забытае каханьне.

Дрыжыць лісток — апошні летні сон
пад цяжкім пацалункам злога ветру.
Праменьне раставае ў паветры
і раставае сонечны сутон.

Сьпявае сьнег пад крокамі зімы.
Спадае ноч сьняжынкамі на плечы.
За далягляд хаваецца сінеча...
Пакрочу ў змрок — нядоўгі і прамы.

* * *

Калі празьвініць апошні званок —
я еду туды, як заўсёды,
у ціхі прыгожы мой родны куток,
у вёсачку Пераходы.

Самотныя ў полі дубочкі стаяць,
струменіць у доле крыніца.
У лесе птушыныя сьпевы чуваць,
раса на траве серабрыцца.

А вось і зялёны мой родны сад,
вось яблыні, грушы і сьлівы.
Вось шэрыя стрэхі вясковых хат.
Я самы на сьвеце шчасьлівы.

* * *

У хвалі ранка зоркі патанулі,
нібы каменьне з чорнае ральлі.
Вылазіць сонца з бронзавай кашулі,
каб павітаць галодныя палі.

На дрэвах шэрань — зімнае каханьне.
Пад дрэвамі — марудная трава.
Пайду туды, дзе ноччу крочыць зданьне,
дзе думак, як паветра, не чуваць.

* * *

На нябесным табло
загарэліся зоркі.
Бы сьмятану, сьвятло
месяц лье на пагоркі.

І расплыўся туман
па салатавым лузе.
Стаў зялёны дыван
чыста-белым, як студзень.

За прыціхлай ракой
ля трывожнага гаю
перарвала спакой
песьняй птушка начная.

## РАНАК

Ранак прасеяў празь сіта
ноч, нібыта муку.
Зь берагу хутка і спрытна
зьбег, разбудзіў раку.

Сонейка — торт ён зь печы,
бы пекар, увішна дастаў.
Выпусьціў хмарак-авечак —
вецер іх пасьвіць пагнаў.

* * *

Нібы пчолы, кружацца сьняжынкі —
вылецелі з хмары, як з вульля.
Падаюць на шэрыя будынкі.
Коўдраю накрылася зямля.

Шэранем аблепленыя дрэвы,
а здаецца — чыстым серабром.
Ціха сьпяць зімовыя пасевы
пад прыгожым белым дываном.

* * *

Нібы бандыт ці злодзей,
ціха крадзецца вечар.
Песьні на сотні мэлодый
ў полі складае вецер.

Стукае дождж у вокны —
просіцца быццам у хату.
Клён ля дарогі мокне,
грукае гром з гарматы.

Белы туман ужо зрэжу
ў лузе адпачывае.
Жоўтай стралою маланка
неба перацінае.

## НОЧ

Неба ноч вуглём размалявала, вецер
злы спусьціла з ланцуга. Сонца ў
сваю сумку захавала, лямпы
пазапальвала ў дамах.

Зоркі залатыя раскідала,
месяцу сказала вартаваць.
Белае сьвятло падаравала
дню, што стане заўтра панаваць.

Казачнымі снамі надзяліла
дзетак, што пад коўдрамі ляжаць.
Хмары ўсе на ніткі распусьціла —
сьвітар дрэвам пачала вязаць.

## РАНАК У ВЁСЦЫ

Ранак птушынай песьняй сонца пячэ на небе.
Белы туман вартуе сіні далёкі лес.
Чутны ў траве халоднай ціхі жаўронка шчэбет.
Ліпы стаяць панура. Вецер схаваўся ў бэз.

Месяца серп сьмяецца ў чыстых нябесных далях.
Холад паўзе з-пад. студні ў цёмны заспаны сад.
А камары ля вуха весела правяць балі.
І крапіва цікуе каля вясковых хат.

Сьмела павук сплятае сетку ў галінках сьвежых.
А на гародзе бульба кветку сваю ўзьняла.
Грушка глядзіць з-за даху моцная, нібы вежа.
Уецца з чырвоных промняў бачны клубок цяпла.

Ластаўкі б'юць сароку гоняць адсюль зладзейку.
Стомлена стогне машына на пад'ёме крутым.
Травы расу зьбіраюць, быццам жабрак капейку.
Спрэчку вядуць на рове з жабамі чараты.

Жухне лапух пад хлевам. Ходзіць ля стогу бусел.
Шум галубы прынесьлі, кружачы над зямлёй.
Выйшлі на луг пасьціся купкай сварлівай гусі.
Пеўні паўсюль гарланяць...

Але наўкола спакой.

* * *

Мокры луг і таямніцу лесу —
чорныя заспаныя яліны —
раніцой пакінуў сьветлы месяц
і растаў салодкаю малінай.

З гушчара, дзе толькі адны совы,
у крыві запэцканае сонца
ўстала і амылася расою,
не зважаючы на сьмертаносны стронцый.

## БЛІЖЭЙ ДА ЛЕТА

Жыцьцё глынае кавалкі года.
І хіліць сонца бліжэй да лёта.
Стаіць цудоўная пагода.
Плывуць аблокі ў нябёсах сьветлых.

А над ракою, над сінім плёсам
сярод травы і жоўтых кветак
галіны ўскінула бяроза,
лісточак кожны чакае лета.

Частуюць дрэвы паветрам чыстым.
І каб хутчэй ляцела лета,
я крыкну далям серабрыстым,
а словы лета падзеліць зь ветрам.

## ЗОРКА

Упала зь неба зорка
на мяккую траву
і стала кветкай жоўтай,
а я яе сарву.

Сабе пастаўлю ў шклянку
з празрыстаю вадой —
хай зоркі з-за фіранкі
любуюцца сястрой.

Калі захоча ў неба,
скажу ёй: «Выбачай,
што так трымаў дарэмна.
Ляці ў свой зорны край!»

## САД

Цалуе сад нябесную сінечу,
калыша вецер воблакі над ім.
З-за цёплых дрэў выходзіць ціхі вечар
і ранак падымаецца, як дым.

У верхалінах засынае сонца,
калі за дзень стамляецца сьвяціць.
А ноччу зоркі, летучы ў бясконца,
на лісьце прысядаюць адпачыць.

* * *

Чорныя шаты разьвесіла
ноч за вакном.
Сыплюцца кроплі нявесела
дробным дажджом.

Вецер сарваў з галіны
жоўты лісток.
Шэры камяк птушыны
ў вырай уцёк.

З коміна льецца лёгкі
сіні дымок.
Восень ужо. Адзінота
пераступіла парог.

* * *

Вечар цісьне дадолу
Стосы шэрых аблокаў.
Сонца промнямі коле
І ня ладзіць са змрокам.

Ноч, бы чорная пешка,
Прабіваецца ў дамкі.
Па нябеснае сьцежкцы
Зоркі йдуць на гулянку.

Месяц выплыў з лагчыны
І забраўся на хмары.
Носіць вецер навіны
Па зялёным абшары.

## КРЫЖ

Каля брамы касьцельнай Хрыстос
Зь цяжкім крыжам мінуўшых вякоў
З-пад абломкаў няпраўды ўваскрос,
Ды далей нікуды не пайшоў.

А навошта кудысьці ісьці?
Каб крывёю зямлю паліваць?
Гэты крыж нам таксама нясьці
І таксама на ім паміраць.

Гэта спадчына наша, і Бог
Зьберагчы дапаможа яе.
Дык наложым цярновы вянок.
Веру я, што і ён зацьвіце.

* * *

Дзень уступіць мейсца змроку.
Мяккі сьнег схавае крокі
ад вачэй.

Сон кладзецца на дарогу.
І нічога ад былога,
ад завей.

Вечар вечнасьць рассыпае
а наўкол самога злая.
нібы цьвік.

Зоры, быццам аксаміт.
Дрэмле, хмарамі спавіты,
маладзік.

Трэба спаць. Навошта вохаць?
Каб дзяцей малых палохаць,
прыйдзе страх.

Паказыча кіпцем вострым.
Скалыхнецца бляск дзівосны
на платах...

* * *

Ціха крочу па белым парку
сярод строя маўклівых дрэў.
Сьнег сядае на шэрую лаўку,
ну, і я асьцярожна прысеў.

А на сэрцы нядобра і горка,
вее сумам ад голых галін.
Толькі дзеці катаюцца з горкі,
але я, як заўсёды, адзін.

Уся зямля пакрываецца мехам
ад халодных зімовых завей.
Я падняўся, атросься ад сьнегу
і паціху пакрочыў далей.

# ДУЭЛЬ

Зборнік вершаў

Здадзена ў набор 1.6.92 г.
Падпісана да друку 10.7.92 г.
Фармат 60х84/32. Папера пісчая № I. Высокі друк.
Умоўн. друк. арк. 1,39 Тыраж 500. Заказ 2162.

Гродзенскае абласное
упраўленне па друку

Гродзенскае аддзяленне
Беларускага фонду культуры

Гродзенская абласная ўзбуйненая друкарня.
230003, г. Гродна, вул. Паліграфістаў, 2.